# Кароль пачуццёвай лірыкі

Хтосьці шукае ў песні сучасныя аванґардныя аранжыроўкі або вытанчаныя адценні гуку, а хтосьці не абыходзіць увагай простыя душэўныя шчыраванні, калі самому хочацца ўзяць у рукі ґітару ды раздзяліць з аўтарам імгненні светлых пачуццяў. Гаворка, вядома ж, пра бардаўскую песню, у межах якой Эдуард Акулін стаў прызнаным каралём пачуццёвай лірыкі.

Сваю песенную творчасць бард пачынаў у жорсткія і мройныя 80-я гады, калі душа прагла пераўтварэнняў, але не мела ніякіх шанцаў урэчаісніць іх у жыцці: пра кружэлкі, тэлезапісы, радыёпрэзентацыі можна было толькі марыць... Песні бардаў гучалі на маґнітафонах, падчас кватэрнікаў ды турыстычных вандровак. Але напачатку 90-х гадоў нарэшце з'явіліся фірменныя магнітальбомы бардаў, на якіх сярод першых у Беларусі быў і Эдуард Акулін.

А праз дзесяць гадоў, калі жанр бардаўскай песні захапіў прамысловыя тыражы кампакт-дыскаў, Эдуард Акулін засеў за працу ў студыі, каб у сур'ёзным лічбавым фармаце па-новаму ўвасобіць свае песенныя шэдэўры. Так нарадзіўся паўнафарматны альбом «Напачатку была Песьня», выдадзены ў 2003-м годзе айчыннай фірмай гуказапісу «Vigma».

Гэта быў уласны погляд на сваю песенную творчасць, але па-свойму ацанілі песні Эдуарда Акуліна і ягоныя слухачы, з якіх паспелі вырасці й сапраўдныя адмыслоўцы шоўбізу. Канцэртна-выдавецкі менеджар Віталь Супрановіч не раз прызнаваўся, што выхоўваўся на песнях Акуліна, таму даўно марыў падарыць бе-

ларускаму слухачу непадробную атмасферу бардаўскіх запісаў 80-х гадоў. Ён заахвоціў айчынных адмыслоўцаў саўндпрадзюсінґу залічбаваць аналаґавыя архівы беларускай бардаўскай песні. Так у 2007-м годзе з'явіўся на «БМАgroup» канцэптуальны збор Эдуарда Акуліна «Песьні залатой Крывіі», куды трапілі поўныя версіі касетных альбомаў «Мая Крывія» (1992) і «Як яна і я...» (1997) з ґрунтоўным аналітычным артыкулам музычнага крытыка Анатоля Мяльґуя. Гэта выданне ў сваім родзе — унікальнае, бо на адным альбоме захаваны і чысты пранікнёны голас юнага спевака, і ўпэўнены драйвовы тэмбр мацёрага аксакала жанру. Вось чаму гэта кружэлка імгненна разышлася сярод прыхільнікаў аўтарaскай песні.

Што ж нясе слухачу 3-і рэліз знакамітага паэта і папулярнага барда? Натуральна, песенны досвед двух папярэдніх альбомаў. І хоць тут усё новае, раней невыдаванае, але айчынны слухач паспеў падсесці праз шматлікія канцэртныя выступы аўтара і на патрыятычны гімн «Янка Купала», і на пранікнёную оду «Мама», і на трагічную сагу «Журба» на словы Анатоля Сыса... А пакаленне 80-90-х з захапленнем прыгадае меґа-хіт таго часу «Памятаю, як ты...», згублены ў вірах гомельскага перыяду творчасці барда. Усе яго ведалі тады як Едруся Акуліна, а ўся Беларусь прызнавалася ў каханні словамі ягоных песень... Што гэта дало? Запытайце Янку, Вераса, Адася, Альдону ды іншых нашчадкаў адраджэнскага пакалення. У іх жыве Беларусь!

Вітаўт МАРТЫНЕНКА,
*музычны крытык*

## Памятаю, як ты…

**Am Dm E Am**
Памятаю, як ты ціха шаптала: — Любы…
**Am Dm Gm C**
Памятаю, як ты несла насустрач губы…
**Am Dm Gm C**
Памятаю, як ты не адхінала рукі.
**Am Dm E Am**
Памятаю тае музыкі ціхай гукі.

*Прыпеў:*

**Dm Gm C Am**
Покуль буду — буду помніць.
**Am Dm Gm C**
Тую поўню не забуду…
**Dm Gm C Am**
Покуль буду — буду помніць.
**A7 Am**
Родны Гомель не забуду!

Памятаю, як дождж ліўся нібыта з лубу.
Памятаю, як ты стала маёю згубай.
Памятаю тваіх воч звар'яцелых пустач.
Памятаю, як ты несла сябе насустрач…

*Прыпеў.*

## Залатая мая

**Am Dm**
На ускраіне небакраю
**Gm C**
не карай мяне нематой…
**Am Dm**
Залатая мая, святая,
**Gm C**
ля самоты маёй пастой.
**Am Dm**
Аддаю табе ўсё, што маю,
**Gm C E**
нават тое, што іншым даў…
**Am Dm**
Залатая мая, святая,
**Gm C**
я нікога так не кахаў.

Адрываючы, абдымаю…
не цалуючы, вочы п'ю.
Залатая, мая святая,
я знікаю ў журбу тваю…

Прыгубіўшы слязу адчаю,
не ўяўляю куды ляцець?..
Залатая мая, святая, —
залацей за жыццё і смерць!

## Янка Купала

**Am  Dm    Gm              C**
Запытайся у родных нябёс,
**Am   Dm    Gm             C**
у анёлаў, што спяць на  аблоках,
**Dm                   Gm          C**
беларускі хто выплакаў лёс,
**Dm                 Gm              C**
хто пражыў і памёр так высока.

*Прыпеў:*

**Dm        Gm         C       E**
Многа ці мала дзён мінавала,
**Dm          Gm        C**
гаснуць Знічы на вадзе...
**Am    Dm          Gm  C**
Янка Купала, Янка Купала,
**Am     Dm          E**
Янка Купала ідзе!

Углядзіся у вочы Хрыста
і у кроў на святой Плашчаніцы —
гэта час Беларусі настаў —
час змагацца, кахаць і маліцца.

*Прыпеў.*

Адгукніся таму, хто сказаў,
што жыве Беларусь і не згіне,
той, хто з восьмага неба упаў,
каб прачнуцца у вольнай краіне.

*Прыпеў.*

## **На шпілі званіцы…**

*(Паводле Біруты Янушкайтэ)*

**C            Am      Dm**
Д’ябал на шпілі званіцы
**Gm          C               E**
танчыць ад страху, бо
**C          Am     Dm**
ў неба ляцяць малітвы,
**Gm              C**
крэслячы лёс яго.
Д’ябал на шпілі званіцы
цэлую ноч не спіць.
Свечкі слязой грамнічнай
вечнасць пад ім гарыць…

*Прыпеў:*

**Am                Dm**
Так вось яно і йдзе
**Gm           C**
жыццё на шпілі званіцы:
**Am           Dm   Gm**
Госпад душу вядзе,
**C                   E          C**
а д’ябал нам толькі сніцца…

Д’ябал на шпілі званіцы
танчыць яшчэ й таму,
вечнасці звон казычыць
собіць хвастом яму…

*Прыпеў.*

Ангел на шпілі званіцы
танчыць без страху, бо
ў неба ляцяць малітвы,
доўжачы век яго…

*Прыпеў.*

## Журба

*(Словы Анатоля Сыса)*

**Am Dm Gm C**
Я трапіў у сіло журбы
**Am Dm C**
і сам у гэтым вінаваты.
**Am Dm Gm**
А быў, яшчэ учора быў
**C Am E**
на радасць і сяброў багаты.

*Прыпеў:*

**Am Dm Gm C**
Адкуль, адкуль прыйшло яно?
**Am Dm Gm C**
Калі з граху, дык грэх мой — шчасце!
**Am Dm Gm C**
Я сам, я сам прыдбаў яго
**Am E**
Гай-ворана віновай масці.

Я мог бы разарваць сіло.
Я мог бы, ды баяўся болю.
Яно ж да сэрца прырасло,
як роздум мой прырос да столі…

*Прыпеў.*

## Я адну цябе кахаю…

**Am Dm Gm C**
Зоркі ў небе расцвітаюць…
**Am Dm Gm C**
Вочы з воч пяшчоту п'юць.
**AmDm Gm C**
Я адну цябе чакаю,
**AmDm Gm C**
я адну цябе кахаю,
**Am Dm E**
я адну цябе люблю.

Знічкі ў росах дагараюць.
Вусны з вуснаў слодыч п'юць.
Я адну цябе чакаю,
я адну цябе кахаю,
я адну цябе люблю…

Дні мае, як дым згараюць…
Я услед ім прапяю:
што адну цябе чакаю,
што адну цябе кахаю,
што адну цябе люблю…

Зоркі ў небе расцвітаюць…
Знічкі ў росах дагараюць…
Дні мае, як дым знікаюць…
Я адну цябе люблю!

## Жанчына

**Am Dm E Am**
Жанчына — сасуд без дна...
**Am Dm E Am**
Дакладней — Сусвет сусветаў.
Am Dm Gm C
Сам Бог у яго віна
**Am Dm E Am**
наліў, каб натхняць паэтаў.

Заблудзяцца ночы ў днях
у пошуках апахмелкі…
Жанчына — сасуд без дна
для тых, хто душой нямелкі.

Жанчына — сасуд без дна.
Дакладней — Сусвет сусветаў.
Сам Бог у яго віна
наліў, каб натхняць паэтаў…

Камусьці — фрагмент рабра,
узноўлены для Адама...
А мне — акіян святла —
Каханая, Муза, Мама.

## Мама

**Am Dm Gm C**
Час прыйшоў за грахі вініцца.
**Am Dm Gm C**
Памяць паліць гады натло.
**Am Dm Gm C**
Ды часцей стала мама сніцца,
**Dm E Am**
не сама, а яе святло.
Мне на гэта святло маліцца,
покуль будзе мой шлях відзён.
Мама, імя тваё свяціцца
хай ад сёння да скону дзён.

*Прыпеў:*

**Dm Gm C Am**
— Мама, мама!
**Dm E Am**
Ніжай твае з кожным днём нада мной нябёсы.
**Dm Gm C Am**
— Мама, мама!
**Dm E Am**
Як Магдалена, ты стала сястрой Хрыста.
**Dm Gm C Am**
— Мама, мама!
**Dm E Am**
Ты мне даруй, дарагая, і боль і слёзы…
**Dm Gm C Am**
— Мама, мама!
**Dm E Am**
Клічу цябе, ды маўчыць у адказ зіма…

Ведаю, мама, мяне ты заўжды любіла.
Ды не пачула ніколі пяшчотных слоў…
Рукі твае абдымаюць мяне, як крылы,
Вочы твае — залатое нябёс святло…

## Грэх

**Am  E                    Am**
Стаючы паміж дзвюх дарогаў,
**Am      E            Am**
выбіраю не рай, а грэх…
**Dm          Gm        C**
Я прашу даравання ў Бога,
**Dm          E**
толькі бачу вочы твае…

Ночы ў сноў адняла трывога.
перарваўся анёльскі спеў.
Я прашу даравання ў Бога,
толькі бачу вусны твае…

Праклінаючы ў думках злога,
у пустой, як душа, царкве,
я прашу даравання ў Бога,
толькі бачу рукі твае…

Прынікаючы да нічога,
у сляпой, як Сусвет, журбе,
Я прашу даравання ў Бога,
я прашу даравацъ… цябе.

## Позна

**Am Dm Gm C**
Восеньскі праспект. Лісцяў жоўты плед
**Am Dm E**
на азяблых клёнах дагарае…
**Am Dm Gm C**
Восеньскі праспект. Памяці канспект
**Dm E Am**
нам перапісаць не выпадае…

*Прыпеў:*

**Dm Gm C E Am**
Позна! Цябе сустрэў на шляху.
**Dm Gm C E Am**
Позна! Жыць, як раней, не магу…
**Dm Gm C E Am**
Позна! Нам крылы Бог падарыў.
**Dm E Am**
Позна! Вучыцца лётаць без крыл…

Восеньскі сюжэт. Муза і паэт.
І дажджы размылі небапросінь.
Восеньскі сюжэт. Памяці каспект
нам перапісаць не удалося…

*Прыпеў.*

Позна! Вятры услед нам крычаць.
Позна! Вучыцца ў восень кахаць…
Позна! Нам крылы Бог падарыў.
Позна! Ды не магу жыць без крыл!

## Малітва воч

**Am Dm E Am**
Я столькі год адзін блукаў,
**Am Dm GM C**
я столькі год цябе шукаў,
**E Dm E**
Не жыў марудна паміраў да звання…
**Am Dm Gm**
Як безнадзейны пілігрым,
**C Am Dm E**
як ссірацелы ў небе дым,
**Am Dm E Am**
я столькі год чакаў твайго кахання..

*Прыпеў:*

**Am Dm Gm C**
Захоплены начной імшой,
**Am Dm Gm C**
у храм кахання я прыйшоў,
**Am Dm E Am**
на светлыню вачэй тваіх малюся…
**Am Dm Gm C**
Захоплены начной імшой,
**Am Dm E**
тваёй я дыхаю душой,
**Dm E Am**
сваёй душой з табою я дзялюся…

А ты прыйшла, як першы дзень,
а ты прыйшла, як светлы цень,
а ты сышла з заплаканых нябёсаў.
Багіняй юнай Харасва,
Анёлам чыстага Раства,
а ты прыйшла, каб стацца маім лёсам.

*Прыпеў.*

## Паходная

**Dm Gm C E**
Выпраўлялі нас матулі на смяротны бой…
**Dm Gm C Dm E**
Бралі мы мушкеты, кулі у паход з сабой.
**Dm Gm C Dm E A7**
Ды пакуль у росным лузе пасвіцца мой конь,
**Dm Gm C Dm E Am**
ты цалуй мяне у вусны, ты цалуй у скронь.

*Рэфрэн:*

**Dm Am Dm E**
Выпраўлялі, выпраўлялі, выпраўлялі нас!
**Dm C E Am**
Забівалі , забівалі, забівалі нас!

Выпраўлялі нас матулі на чужын-зямлю.
Хто ад шаблі, хто ад кулі знойдзе смерць сваю…
Пыл з дарогай у хаўрусе, а з падковай конь…
Ты цалуй мяне у вусны, ты цалуй у скронь.

*Рэфрэн.*

Выпраўлялі нас матулі бараніць свой край.
Хоць ад шаблі, хоць ад кулі цяжка паміраць…
Калі ж дасць мне Бог вярнуся на Радзіму я,
пацалуй мяне у вусны, любая мая!

*Рэфрэн.*

## Птах

**Am Dm Gm C**
Над неабсяжным краем, у глыбіні нябёс
**Am Dm E Am**
Птах залаты лунае, як беларускі Лёс.
**Am Dm Gm C**
Над Белавежскай пушчай і над тваім жытлом
**Am Dm E Dm E**
Птах непакорны кружыць хіжым вятрам на зло…

*Прыпеў:*

**Am Dm**
Гэта не ўмёр Купала,
**Gm C**
гэта жывы Максім.
**Am Dm**
Гэта ў душу запала
**E A7 DmE**
Слова з былых часін…
**Am Dm**
Па-над забраным краем
**Gm C E**
песня Любві плыве.
**Am Dm**
Птах залаты лунае,
**E Am**
а Беларусь жыве!

І хай шалее зграя.
Сэрца на часткі рве…
Птах залаты лунае,
песня Любві плыве.
Па-над забраным краем
песня Любві плыве.
Птах залаты лунае,
а Беларусь жыве!

